**№ 59 (3902)**

1 жніўня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГАРАЧАЯ ТЭМА

# Мінск паміж вайной і мірам

***Навіны з Мінска на стужках сусветных інфармацыйных агенцтваў учора праходзілі з пазнакай «Маланка!». Сталіца Беларусі была абрана месцам сустрэчы трохбаковай групы па ўрэгуляванні сітуацыі ў Данбасе, што дадало незвычайнага палітычнага градусу ў гарачыню апошняга дня ліпеня.***

Увесь дзень прайшоў на нервах: дакладна не было вядома, хто канкрэтна едзе на перамовы ў Мінск, калі і дзе канкрэтна пачнецца сустрэча, што да яе падрыхтавалі бакі. Затое ніхто не хаваў, што Расія пачала адкрыта сцягваць да ўкраінскай мяжы свае войскі, напярэдадні агучыўшы ў ААН намер увесці ў Данбас свой "міратворчы кантынгент". Такія кантынгенты ўводзіліся і ў Абхазію падчас грузіна-абхазскага канфлікту, і ў Паўднёвую Асецію. Чым гэта скончылася для Грузіі — вядома: стратай тэрыторый. Такім чынам, увесь свет у гэтыя гадзіны разумеў, што вельмі важна, каб на беларускай зямлі быў знойдзены іншы выхад з сітуацыі, каб абышлося без "міратворцаў" на БТРах і са зброяй у руках.

Прадстаўляць афіцыйны Кіеў на сустрэчы ў Мінску прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка ўпаўнаважыў былога прэзідэнта Леаніда Кучму. У чацвер раніцай стала вядома, што ў Мінск вылецеў пасол Расіі ва Украіне Міхаіл Зурабаў, а таксама прыбылі прадстаўнікі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе. Хто канкрэтна можа прадстаўляць сепаратыстаў, таксама было незразумела. У першую чаргу таму, што вельмі цяжка разабрацца, хто і што кантралюе ў новаўтвораных ДНР і ЛНР і ці кантралюецца сітуацыя ўвогуле.

Як бы тое ні было, адразу звярнуў на сябе ўвагу нізкі ўзровень прадстаўніцтва, з чаго можна было смела зрабіць выснову, што першая сустрэча ад пачатку была запланавана як тэхнічная, пробная. Тым не менш абстаўлена яна была такой завесай сакрэтнасці, нібы тайныя планы ў Мінску сабраліся ўзгадняць КДБ і ЦРУ.

"Без каментарыяў", — часцей за ўсё менавіта гэтую фразу ўчора чулі журналісты, нават калі спрабавалі даведацца не пра сутнасць перамоў, а хаця б пра тое, ці селі прадстаўнікі канфліктуючых бакоў за адзін стол. І толькі ў другой палове дня "разведка данесла", што перамовы пачнуцца ў самай бязлюднай рэзідэнцыі "Заслаўе" пад Мінскам, да якой без адпаведнага дазволу і птушка не падляціць.

Цікава, што ў сувязі з апошнімі падзеямі эксперты і так і гэтак пачалі абмяркоўваць новы імідж Аляксандра Лукашэнкі — імідж палітыка, які бярэ ўдзел у рэгуляванні праблем сусветнага ўзроўню, імідж міратворцы. На самай справе беларускі бок толькі тэхнічна забяспечваў сустрэчу. Наша меркаванне наконт метадаў урэгулявання канфлікту, зразумела, нікога не цікавіла. Так што развежанні пра "новую палітычную вагу беларускага кіраўніка ў сусветнай палітыцы" трэба прызнаць мастацкім перабольшваннем. На самай справе ўсё значна прасцей.

*"З прадстаўнікамі Расіі Украіна можа праводзіць перамовы ў любым месцы, а вось з прадстаўнікамі самаабвешчаных тэрарыстычных фарміраванняў ДНР і ЛНР ёсць пытанне*, — патлумачыў выбар беларускай сталіцы ў якасці пляцоўкі для перамоў украінскі палітолаг Віталь Портнікаў. — *Мінск у якасці месца для такіх сустрэч быў прапанаваны яшчэ некалькі тыдняў таму. Мінск быў выбраны выключна як нейтральнае месца, якое гарантуе бяспеку ўдзельнікам перамоў. Пытанне нейкага асаблівага даверу Украіны да Аляксандра Лукашэнкі тут проста не стаіць. З украінскага боку ў гэтых перамовах бярэ ўдзел другі прэзідэнт Леанід Кучма, і я перакананы, што Лукашэнка гарантуе яму бяспеку. А Леанід Кучма не хоча ехаць у Маскву для такіх перамоў, бо ён, мякка кажучы, заклапочаны тым, што Расія зрабіла ў дачыненні да Украіны. Ехаць на тэрыторыю, якую кантралююць бандыты, ён таксама не хоча. У выніку застаецца не так шмат месцаў, куды маглі б прыехаць і экс-прэзідэнт Кучма, і пасол Зурабаў, і прадстаўнікі АБСЕ, і прадстаўнікі тэрарыстаў. Як бы гэта ні дзіўна гучала, але Мінск — гэта такое месца, куды могуць прыехаць і Кучма, і тэрарысты з аднолькавым перакананнем, што з імі нічога не здарыцца. Зразумела, што Лукашэнка гарантаваў бяспеку і прадстаўнікам тэрарыстаў, бо ён звязаны пэўнымі адносінамі з Расіяй. Мінск — ідэальнае месца для такіх перамоў і, баюся, адзінае на зямлі. Хіба што яшчэ Алматы ці Астана, але туды даволі далёка ехаць".*

На момант здачы гэтага нумара ў друк ніякай дакладнай афіцыйнай інфармацыі наконт парадку дня не было. Бакі ўдакладнілі тэхнічныя моманты.

Але з неафіцыйных крыніц з'явілася інфармацыя пра тое, што падчас сустрэчы на парадку дня будуць вузкія пытанні: абмен палоннымі (168 чалавек) і забеспячэнне бяспекі міжнародных экспертаў на месцы крушэння малайазійскага "Боінга 777". У апошні момант асноўныя сустрэчы былі перанесены на пятніцу.

Відавочна тое, што гэтая сустрэча будзе не апошняй.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## І мядзведзі сытыя, і ўкраінцы цэлыя

Крыніца з асяроддзя канцлера Германіі паведаміла брытанскаму выданню The Independent аб таемных дамоўленасцях паміж **Уладзімірам Пуціным** і **Ангелай Меркель.** Сутнасць іх нібыта такая. За міжнароднае прызнанне анексіі Крыма Расія перастане падтрымліваць вайну на Данбасе. Прэзідэнт Украіны **Пётр Парашэнка** адмовіцца ад уступлення ў НАТА, а наўзамен Уладзімір Пуцін не будзе ўмешвацца ў гандлёвыя адносіны Украіны з Еўрасаюзам.

Як піша The Independent, акрамя таго, "мірны план Меркель" прадугледжвае для ўкраінскага боку доўгатэрміновы кантракт з расійскім "Газпромам" на будучыню з загадзя агаворанымі коштамі. Да гэтага Расія верне Украіне 1 мільярд долараў ў якасці кампенсацыі за страту арэнднай платы за дыслакацыю расійскага флоту ў Крыме і ў порце Севастопаль.

Паводле паведамленняў крыніц, набліжаных да федэральнага канцлера Германіі, Пуцін і Меркель увасобяць свой план у жыццё, як толькі завершыцца міжнароднае расследаванне прычын катастрофы пасажырскага самалёта "Боінг" у Данецкай вобласці.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Алесь БЯЛЯЦКІ:*

# «Паехаў варыць сочыва, а патрапіў у турму...»

*Праваабаронца і нядаўні палітвязень Алесь БЯЛЯЦКІ распавёў "Народнай Волі" пра замежныя рахункі, сваё турэмнае жыццё, сям'ю і пра тое, чаму не хоча балатавацца ў прэзідэнты.*

## «Спачатку цябе выпіхваюць з легальнага поля, а затым садзяць у турму...»

**— Давайце з самага пачатку расставім кропкі над "і" ў гісторыі з вашымі замежнымі рахункамі, якія і сталі падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы. Літоўскае Міністэрства юстыцыі і польская пракуратура перадалі беларускай фінансавай міліцыі інфармацыю аб гэтых рахунках... Іх нельга было адкрыць у Беларусі?**

— Безумоўна, нельга. Трэба згадаць сітуацыю, што ліквідаваны ўладамі ў 2003 годзе праваабарончы цэнтр "Вясна" не меў права весці ў Беларусі нейкую легальную дзейнасць. Хоць да 2003 года, пакуль была рэгістрацыя, у нас быў афіцыйны рахунак і мы спраўна плацілі падаткі. Апроч гэтага, уся замежная грашовая дапамога павінна рэгістравацца ў Дэпартаменце па гуманітарнай дапамозе пры Адміністрацыі прэзідэнта, але пры гэтым такога віду дзейнасці, як праваабарончая, у прынцыпе няма. Ты ніяк не можаш атрымаць дапамогу, хоць у многіх краінах праваабарончыя праграмы наогул вызваляюцца ад падаткаў. Але ж і пасля таго, як нас зачынілі, мы не маглі кінуць на самацёк тыя праблемы і пытанні, якімі займаліся. Дапамагалі ахвярам палітычных рэпрэсій, займаліся асветніцкай дзейнасцю, пытаннямі смяротнага пакарання... Мы шукалі выйсце са складанай сітуацыі, а таму і было вырашана адкрыць рахункі за мяжой. На гэты конт з фондамі была дамова, у саміх раздрукоўках, якія патрапілі ў Дэпартамент фінансавых расследаванняў, пазначалася, на якія мэты патрачаны грошы. Адным словам, тут цэлы комплекс праблем. Спачатку цябе выпіхваюць з легальнага поля, а затым кажуць: "Ты ж крымінальны з усіх бакоў!" І садзяць у турму. Дарэчы, падчас суда нашы замежныя партнёры пацвердзілі, што грошы былі выдадзены менавіта на праваабарончую дзейнасць, ёсць адпаведныя справаздачы. Але ж гэта ўжо нікога не цікавіла... Беларускія ўлады, у якіх былі пагадненні з польскімі і літоўскімі калегамі, проста выкарысталі іх, каб разабрацца з унутранымі апанентамі. Я разумеў, што рашэнне па маёй справе будзе прымацца ў высокіх кабінетах. Калі ты займаешся грамадскай дзейнасцю, то ўжо знаходзішся ў зоне рызыкі, бо з'яўляешся для ўлады пэўнай праблемай.

**— Пасля вашага арышту дзяржаўныя СМІ білі на тое, што парушэнне падатковага заканадаўства жорстка караецца ва ўсім свеце. Пісалі, што вы маеце дзве кватэры ў цэнтры Мінска, лецішча ў Ракаве, шыкоўны аўтамабіль. І задаваліся пытаннем: "Чаму рабочы трактарнага завода павінен плаціць падаткі, а праваабаронца грамадзянін Бяляцкі не?"**

— Я са свайго заробку плаціў падаткі, і падатковая інспекцыя мела ўсе паперы. Але чаму трэба было плаціць яшчэ і не са сваіх грошай? Паводле беларускага заканадаўства, калі ты з'яўляешся асобай, якая не карыстаецца фінансамі, а перадае іх на іншую дзейнасць, то не павінен плаціць падаткі. Калі дзяржава хоча, каб мы іх плацілі, то ніхто ж не супраць. Зарэгіструйце арганізацыю і дайце магчымасць праваабаронцам працаваць у легальным полі, а не спіхвайце ў падпольны стан.

Што тычыцца кватэр, лецішча і машыны... На судзе гэтыя выпадкі разбіраліся. Адна з кватэр, якую, дарэчы, канфіскавалі, належала фактычна праваабарончаму цэнтру — там на працягу больш як 10 гадоў быў наш офіс. Паколькі мы прадбачылі праблемы з рэгістрацыяй, з агульнай згоды кватэру запісалі на мяне яшчэ ў 2000 годзе. У другой кватэры мы зараз жывём, а ў мястэчку — звычайная вясковая хата. Што тычыцца машыны: калі набыты з рук у памятым стане "Сітраен" 2001 года выпуску, які быў у нашай сям'і, і ёсць той самы "шыкоўны аўтамабіль", дык тут, як кажуць, без каментарыяў. Застаецца толькі парадавацца за сябе, што набыў такі цуд тэхнікі, як напісалі.

**— Дарэчы, якія заробкі ў праваабаронцаў? З чаго вы плацілі падаткі?**

— Зарабляў на перакладах тэкстаў і падрыхтоўцы матэрыялаў журналісцкага і літаратурнага плана. Як я казаў, у падатковай інспекцыі ёсць усе паперы.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

### АСАБІСТАЯ СПРАВА

*Алесь Бяляцкі быў арыштаваны 4 жніўня 2011 года і прыгавораны за ўтойванне даходаў у асабліва буйным памеры да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.*

*Падставай для крымінальнага пераследу стала наяўнасць у яго замежных банкаўскіх рахункаў, сродкі з якіх выкарыстоўваліся для праваабарончай дзейнасці.*

*Праваабаронца адбываў пакаранне ў папраўчай калоніі №2 Бабруйска, сусветнай грамадскасцю ён прызнаны вязнем сумлення. Выйшаў на волю па амністыі 21 чэрвеня 2014 года.*

*У 2006—2007 і 2012—2014 гадах Бяляцкі вылучаўся на Нобелеўскую прэмію міру.*

*У маі 2013 года ён быў пераабраны віцэ-прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека (FIDH).*

ЖНІВО-2014

# У кіпцюрах спёкі



Такога жніва даўно не было. Тэмпература трымаецца на адзнацы больш за 30 градусаў Цэльсія ўдзень, каля 20 — уначы. К выхадным сіноптыкі прагназуюць +35...+36?С. Больш за тое, калі верыць прагнозам, спёка затрымаецца і на наступным тыдні. Ападкаў амаль не будзе, магчыма, дзесьці пройдуць толькі кароткачасовыя дажджы, а таксама навальніцы.

Заўтра пераважна без ападкаў, толькі ў паўночна-заходніх раёнах месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +14...+20˚С, максімальная днём ад +28˚С па поўначы да +35˚С па паўднёвым усходзе.

Нехта хаваецца ад спёкі ў цяньку, толькі не камбайнеры, якія з самага рання і да позняга вечара вядуць абмалот збажыны.

Па стане на ўчарашні дзень у краіне сабрана зерне з большай часткі плошчаў. Агульны намалот падыходзіць да 6 мільёнаў тон! Лідзіруюць хлебаробы Мінскай вобласці. Да іх набліжаюцца аграрыі Гродзенскай, Брэсцкай і Гомельскай абласцей.

У сярэднім па краіне ўраджайнасць збожжа складае 39,6 цэнтнера з гектара, што на 7 працэнтаў больш, чым было на аналагічную дату мінулага года.

**На фота:** Камбайнер саўгаса "Волма" Мінскай агародніннай фабрыкі **Пётр Арлоў** намалаціў сваю першую тысячу тон збожжа за 6 дзён і атрымаў за гэта 10 мільёнаў рублёў прэміі і тэлевізар "Гарызонт" ад старшыні Мінскага гарвыканкама **Мікалая Ладуцькі.**

УВАГА!

## Лес пад забаронай

У Беларусі з-за анамальнай спякоты ўведзена часовая забарона на наведванне лясоў, паведамляе прэс-служба Міністэрства лясной гаспадаркі.

Забароны ўведзены ў чатырох абласцях: Віцебскай, Гродзенскай, Гомельскай і Мінскай. У прыватнасці, у Віцебскай вобласці наведванне лясоў абмежавана ў Лепельскім, Пастаўскім, Талачынскім, Шумілінскім і Шаркоўшчынскім раёнах. У Гродзенскай — у Воранаўскім і Лідскім раёнах. У Гомельскай — у Жлобінскім і Лоеўскім раёнах.

Паводле інфармацыі міністэрства, па дадзеных на 31 ліпеня з пачатку пажаранебяспечнага сезона ў лясным фондзе Мінлясгаса зарэгістравана 278 пажараў на плошчы 92,59 га. Найбольшая колькасць пажараў зафіксавана ў Гомельскай вобласці — 85 (30,09 га), Мінскай — 70 (15,1 га). Плошча, пройдзеная агнём, самая вялікая ў Магілёўскай вобласці: 33,32 га ў выніку 41 пажару.

ДИПКУРЬЕР

# *Яак Ленсмент:* «Нет времени подводить итоги. Завтра улетаю в Токио»

***В Посольстве Эстонии в Беларуси меняется глава дипмиссии. Яак Ленсмент, который работал послом Эстонии в нашей стране с сентября 2010 года, проводит в Минске последние дни. Накануне отъезда он дал небольшое интервью "Народной Воле".***

**— Господин посол, с каким настроением покидаете нашу страну?**

— Сейчас занят переездом, совсем нет времени анализировать и думать, что я чувствую. Больше приходится думать о том, как упаковать вещи... Наверное, только в самолете будет время подумать о том, что было сделано за годы, проведенные в Беларуси. Уже завтра (1 августа. — **М.Э.**) я улетаю в Токио. Перелет займет 9 часов...

**— Почему в Токио, а не в Таллинн?**

— Получил новое назначение. Буду работать послом Эстонии в Японии.

**— Такое назначение, видимо, стоит расценивать как поощрение?**

— Конечно, Токио очень важная столица. Но у нас нет какой-то формальной иерархии столиц. Но, безусловно, я очень доволен этим назначением. Хотя не могу сказать, что это повышение. Минск для Эстонии — важная столица. Наше правительство очень высоко оценивает пост посла в Минске. На мое место приедет очень опытный дипломат **Маит Мартинсон.** В его послужном списке внушительные посты — он возглавлял эстонское посольство в Пекине, работал начальником службы госпротокола МИД. По эстонским меркам, у нас в Минске очень большое посольство, в нем трудится пять дипломатов. Мало в какой стране у нас такие дипмиссии, как в Беларуси. Обычно два человека, а зачастую посольство представлено одним дипломатом. Поэтому мне сложно сказать, что мое новое назначение — это повышение. Конечно, мне жаль, что приходится уезжать. Но, с другой стороны, я рад, что меня ожидают новые задачи.

**— На прошлой неделе у вас состоялась встреча с министром иностранных дел Беларуси Владимиром Макеем и его заместителем Еленой Купчиной. С чем это связано? Нечасто европейские послы, уезжая из Беларуси, имеют подобные аудиенции.**

— Может быть... Данная встреча — это моя инициатива. Это обычная форма вежливости: когда посол сообщает о своем уходе, он запрашивает о подходящих к ситуации встречах. Я попросил именно о встрече с Владимиром Владимировичем Макеем и Еленой Николаевной Купчиной, и мне предоставили такую возможность. Я имел возможность проститься с ними, подвести итоги. Это в равной степени и рабочая, и дружеская встреча. Я ценю эти отношения.



**— Вы были знакомы с ними только по работе в Беларуси или, может быть, ваши пути пересекались раньше? Вы — выпускник философского факультета БГУ...**

— Был знаком только визуально с Еленой Николаевной. Мы сталкивались в коридорах Института философии и права Академии наук Беларуси, где я работал после окончания БГУ в 1991—1993 годах, а она в это время была аспиранткой. Помню ее по "Ленинке", по общему читальному залу... Мир очень тесен. К слову, отец Елены Николаевны работал в этом же институте, правда, я его не застал, он к тому времени умер. Но очень многие преподаватели, которые его хорошо знали, отзывались о нем как о высоком профессионале и очень порядочном человеке.

**— На ваш взгляд, стоит ли ожидать потепления в отношениях Беларусь—ЕС? Сейчас, после визита в нашу страну главы МИД Литвы Линаса Линкявичуса, все только и говорят об этом...**

— Динамика сейчас хорошая. Готовность восстановить отношения на более высоком уровне со стороны Европы всегда существовала. Но есть условия, которые ЕС требует соблюдать. Как только эти препятствия будут устранены, думаю, отношения будут развиваться еще динамичнее. Это нормально, когда есть такие отношения, когда страны говорят друг с другом.

Сейчас Минск и Брюссель серьезно занялись вопросом облегчения визового режима. Елена Купчина очень активно с белорусской стороны продвигает этот и другие вопросы. Вообще, с ее назначением замминистра иностранных дел, с назначением Владимира Макея министром мы чувствуем, что из Беларуси дует другой ветер, в тональности официального Минска с тех пор наблюдаются изменения. Мы воспринимаем это как определенный сигнал.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Алесь БЯЛЯЦКІ:

# «Паехаў варыць сочыва, а патрапіў у турму…»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)



## «Забралі мяне і 12 слоікаў…»

**— Вы чакалі арышту? Былі да гэтага маральна падрыхтаваны?**

— Пасля таго як у падатковай інспекцыі ў чэрвені 2011 года (за паўтара месяца да арышту) мне паказалі раздрукоўкі з літоўскага банка, я пракансультаваўся з адвакатам наконт таго, як далей можа развівацца справа. Той коратка сказаў: "Яна скончыцца арыштам". Затым паўтара месяца я разам з адвакатам абгрунтоўваў сваю невінаватасць, юрыдычную нікчэмнасць дакументаў, але... Справай займаліся і падаткавікі, і следчыя Дэпартамента фінансавых расследаванняў (ДФР) па Мінску, а таму "закрыць" мяне маглі ў любы момант. Проста палічылі б, што банкаўскіх раздрукоўак дастаткова, — і ўсё. Аднак мяне не чапалі, за гэты час я шэсць разоў спакойна выязджаў за мяжу, бо выкладаў у праваабарончай школе ў Вільнюсе. Улады проста выціскалі мяне з краіны, чакалі, напэўна, што я спалохаюся і застануся ў замежжы. Гэта для іх быў бы цудоўны падарунак лёсу — і поўная дыскрэдытацыя мяне, і цень на беларускі праваабарончы рух.

**— Хто-небудзь раіў папрасіць палітычнага прытулку за мяжой?**

— Так, бо сітуацыя ўяўлялася дастаткова сур'ёзнай. Але было сто аргументаў за тое, каб застацца і змагацца на радзіме, і ніводнага супраць. Уцякаць было б няправільна.

**— Вас затрымалі 4 жніўня 2011 года. Памятаеце той дзень?**

— Безумоўна, хоць прайшло ўжо тры гады. У жніўні я меркаваў адпачыць пасля таго вялізнага аб'ёму працы, што мы, праваабаронцы, зрабілі, праводзячы назіранне за выбарамі, а пасля снежаньскіх падзей 2010 года — баронячы палітычных зняволеных. 4 жніўня паехаў на метро на працу, але калегі патэлефанавалі, што каля офіса круцяцца нейкія падазроныя асобы ў цывільным. Тады я развярнуўся і паехаў дадому. У гэты дзень я збіраўся на вёску варыць сочыва, таму зайшоў у кватэру, узяў 12 маленькіх слоікаў... Так разам са слоікамі каля метро мяне і забралі. Паказалі ордар, затым цэлы дзень былі вобыскі — у кватэры, на офісе, на лецішчы.

**— І што шукалі?**

— Следчых цікавілі паперы, можа быць, шукалі які кампрамат і грошы. Але нічога з таго, што было апісана ці забрана, не фігуравала падчас суда як доказ маёй "злачыннай дзейнасці". На наступны дзень пасля затрымання быў першы допыт у ДФР, а ўжо ўвечары я апынуўся ў СІЗА на Валадарскага.

**— Рэзкая змена дэкарацый…**

— Так, збіраўся варыць сочыва, а апынуўся ў ізалятары. *(Смяецца.)* Перад табой адчыняецца легендарная брама Валадаркі, праз якую ў свой час прайшлі нашыя славутыя Дунін-Марцінкевіч, Якуб Колас, рэпрэсаваныя беларускія пісьменнікі 1930-х гадоў... Я быў падрыхтаваны да таго, што арышт можа адбыцца ў любую хвіліну, але калі трапляеш у такую сітуацыю — гэта заўсёды стрэс... Таму першыя два-тры дні я заўважаў, што знаходжуся ў затарможаным стане. Затым прайшла адаптацыя, і я выразна ўсвядоміў, што адбылося ў маім жыцці. Усё засталося па другі бок кратаў — сям'я, сябры, планы, недаваранае сочыва і кошка Кася... Ты жыў на Зямлі, а апынуўся на Месяцы. Турма адразу вельмі моцна б'е па чалавеку.

## Святое месца пустым не бывае

**— У свой час многія палітвязні, якія прайшлі такія ж этапы ў сваім жыцці, распавядалі, што да "палітычных" ва ўсіх зняволеных абсалютна нармальнае стаўленне. Гэта так?**

— Паўсюль, дзе я быў за гэтыя тры гады, бачыў толькі павагу з боку іншых калег па няшчасці. Людзі разумелі, што ты сядзіш за свае перакананні, за ідэю. Іншая справа, што ёсць зняволеныя, якія супрацоўнічаюць з адміністрацыяй установы. Вось ад іх можна было чакаць рознага кшталту правакацый. У некаторых маглі быць вялікія тэрміны зняволення, і ім патрэбна было зарабіць сабе на невялікія прывілеі. Камусьці паабяцалі перавод на "хімію". Вось і рабіліся негалоснымі "стукачамі". Але я хутка зразумеў адно: нічога кепскага са мной там здарыцца не магло без канкрэтных указанняў тых, хто курыраваў маё адбыванне тэрміну. Гэта нават не адміністрацыя калоніі — у іх сваіх праблем хапае. Куратары палітычных зняволеных знаходзяцца ў Мінску, і інструкцыі пішуць яны, хоць я і не ведаю, якое канкрэтна ведамства гэтым займаецца. Індывідуальны рэжым утрымання кожнага "палітычнага" распісвалі менавіта там. Дарэчы, на Валадарцы я сядзеў у дастаткова прыстойнай камеры — было восем нар і не больш за васем чалавек на іх. Мяне перавялі якраз на тую "шконку", дзе да гэтага знаходзіўся былы кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Ус. Яго адправілі ў калонію, але, як бачым, святое месца пустым не бывае.

**— Алесь, давайце вернемся да судовага працэсу над вамі. Якія былі чаканні ад суда? Якое ўражанне пакінуў сам працэс?**

— Калі я пазнаёміўся са справай і ўбачыў, што ўсё пачыналася з ліста намесніка старшыні КДБ, які пісаў у КДК, што ёсць раздрукоўкі, атрыманыя аператыўным шляхам, зразумеў, што ад пачатку да канца справа мая кантралявалася камітэтчыкамі. Па-чалавечы мяне гэта нават здзівіла, бо сітуацыя нагадвала 1970—1980-я гады, калі такім самым чынам распраўляліся з праваабаронцамі ў СССР. Атрымлівалася, што праверка замежных рахункаў — гэта ініцыятыва не падаткавікоў, а зусім іншых структур. Таму для мяне было прынцыпова важна паказаць на судзе сваю невінаватасць і абсурднасць абвінавачанняў. І тыя мэты, што я ставіў, як мне падаецца, выканаў. На судзе абвінавачванне рассыпалася. Па меншай меры я не прайграў, нягледзячы на вялікі тэрмін, які атрымаў. Чатыры з паловай гады — багата нават для гэтага артыкула, бо ён прадугледжвае і "хімію".

**— Узнікае лагічнае пытанне: ці патрэбны Беларусі праваабаронцы, якія не могуць абараніць сябе?**

— Праваабаронцы ўздымаюць праблемы ўсяго грамадства. І калі народ не мае чагосьці законнага, у чымсьці абдзелены, то мы пра гэта гучна гаворым, пішам, прыцягваем увагу, і так проста рот нам не заткнуць. Гэта шырокі ўзровень праваабарончай дзейнасці. Але ж было і багата выпадкаў, калі мы канкрэтна дапамагалі простым людзям. Яскравы прыклад: у свой час, дзякуючы менавіта нашай працы, Вярхоўны суд адмяніў адзін з смяротных прысудаў. Былі сотні і тысячы спраў, у якіх нам удавалася дабіцца хоць чагосьці станоўчага. Так, я згодны, што ў аўтарытарнай дзяржаве палітычную справу супраць цябе могуць завесці ў любы час. І ў гэтым выпадку змагацца з судамі цяжка. Але ж калі не грукацца ў дзверы, то яны не адчыняцца.

## «У каранціне мне сказалі: «У вас знайшлі сіфіліс…»

— У калоніі былі лягчэйшыя ўмовы жыцця, — працягвае Бяляцкі. — Таму што жыццё ў заканурку, у зачыненай прасторы СІЗА — гэта дастаткова цяжка, хоць там і менш ціску з боку адміністрацыі. У Бабруйскай калоніі, куды мяне прывезлі, адразу ж адправілі ў каранцін. Канец лютага — мароз быў жудасны! Ноччу даходзіла да мінус 20 градусаў на вуліцы, а ў вокнах у секцыі — адна шыбка. Пол памылі, вада заледзянела. Можа, плюс два было ў той казарме, я ўжо думаў спаць не давядзецца. Але людзей напіхалі шмат, неяк надыхалі, стала цёпла. Такія былі мае першыя ўражанні... Сяджу ў каранціне, паздаваў аналізы, падыходзіць размеркаванне па атрадах. Мне кажуць: "Ты адзін застаешся ў каранціне". Я здзівіўся: "Што здарылася?" — "У цябе сіфіліс знайшлі", — адказваю. Адразу зразумеў, які гэта "сіфіліс". Адміністрацыя вагалася, што са мной рабіць, таму і затрымала ў каранціне. Затым усё ж вырашылі "падняць" у атрад, і ўжо праз тыдзень паўторныя аналізы крыві былі добрыя.

**— А яшчэ вы былі ў калоніі злосным парушальнікам рэжыму…**

— Турэмныя правілы ўнутранага распарадку няпэўныя і даюць магчымасць пакараць любога зняволенага за кожнае дробнае парушэнне, пазбавіць яго спатканя, пасылкі, накіраваць у ШЫЗА. Пытанне, што рабіць са мной, перад адміністрацыяй стаяла востра, але асабіста я з-за гэтага моцна не перажываў. Спакойна ўспрыняў сітуацыю, калі ў 2012 годзе, перад амністыяй, мне літаральна за паўтара месяца намалявалі тры парушэнні. Я стаў злосным парушальнікам рэжыму і, нягледзячы на тое, што стаў ганаровым грамадзянінам Парыжа, праляцеў з амністыяй, як тая фанера над ім. Гэтыя парушэнні выпісваліся рэгулярна, а ў тым жа 2012 годзе ледзь не патрапіў у ШЫЗА. З волі жонка перадала абутак, яго на кантролі прапусцілі. Але, як толькі абуўся, адразу ж атрымаў парушэнне за "абутак нестатутнага ўзору". Ужо рыхтаваўся ў ШЫЗА, прайшоў абавязковае ў такім выпадку медыцынскае абследаванне, і раптам — не садзяць. А праз дзень — 50-гадовы юбілей. І вось акурат у свой Дзень нараджэння даведваюся, што да мяне завітаў Апостальскі нунцый Клаўдыё Гуджэроці. Дапусцілі, так бы мовіць, адзінага прадстаўніка міжнароднай супольнасці. Сустрэча праходзіла ў кабінеце начальніка калоніі ў прысутнасці аднаго з кіраўнікоў Дэпартамента выканання пакаранняў. Расказваць нунцыю пра сваю справу не хацелася, таму што не бачыў, які чынам ён можа дапамагчы. Сам арцыбіскуп — гуманітарый па адукацыі, выкладаў ва ўніверсітэце, таму ў нас гутарка ішла ў асноўным пра італьянскую і беларускую літаратуру. Для мяне гэта было незабыўным, выдатным сюрпрызам, чалавек падтрымаў маральна. Зразумеў тады, чаму не накіравалі ў ШЫЗА. Уяўляю, як бы там выглядала сустрэча з нунцыем. Увогуле, за ўвесь час я атрымаў 12 парушэнняў, і такі рэжым утрымання цягнуўся да студзеня гэтага года. Пасля гэтага парушэнняў я больш не атрымліваў.

**— Зарабілі грошай у калоніі? Вы ж там працавалі пакавальшчыкам прадукцыі…**

— Апошні мой заробак за май гэтага года склаў 44 тысячы рублёў. З іх 33 тысячы пайшлі на аплату ўтрымання. Такім чынам, на рахунак пералічылі 11 тысяч, на якія я мог пайсці ў турэмную лаўку і, як кажуць, ні ў чым сабе не адмаўляць. Хоць, натуральна, мне дасылалі грошы з волі. Зрэшты, і тая крама — як бедная вясковая лаўка. Дзякуй Богу, не палю, таму на цыгарэты не трачуся. Што мне, дарэчы, вельмі дапамагала, бо быў такі час, калі з-за парушэнняў я восем месяцаў не атрымліваў перадачы. А што асабліва купіш на 100 тысяч у месяц (раней была такая норма, хоць зараз яе павялічылі ў два разы)?

## «Сям'я — той падмурак, на якім я стаяў, калі сядзеў…»

**— Як ваша сям'я перажывала гэтую складаную сітуацыю?**

— Сям'я ў мяне цудоўная. Для мяне, як і для любога зняволенага, важна было адчуваць падтрымку блізкіх. Тады больш упэўнена і спакойна. Сям'я мяне падтрымлівала на ўсе сто, гэта быў падмурак, на якім я стаяў, калі сядзеў (вось такі каламбур атрымаўся). Але неўзабаве пасля майго арышту ў бацькі знайшлі рак лёгкіх. Праз чатыры месяцы ён памёр. З жодзінскага СІЗА мяне прывезлі на развітанне, зараз вось быў на могілках...

**— Чым займаюцца вашы жонка і сын?**

— Сын закончыў Акадэмію мастацтваў (факультэт рэжысуры) і зараз працягвае навучанне па сваёй спецыяльнасці ў магістратуры ў Польшчы. А вось жонка, хутчэй за ўсё, таксама пацярпела ад маёй дзейнасці. У Акадэміі навук зацвердзілі яе кандыдацкую работу на тэму "Ювелірныя ўпрыгажэнні сярэднявечча", яна прайшла навуковы савет, але на ўзроўні ВАК напрыканцы мінулага года яе "зарэзалі". Гэта была праца яе жыцця. Наталля разглядала старажытныя ўпрыгажэнні з пункту гледжання іх мастацкай каштоўнасці для беларускай культуры.

**— Наколькі вядома, вы за кратамі досыць актыўна далучыліся да літаратурнай дзейнасці…**

— Пісаў я паўсюль, дзе меў магчымасць. Папера была для мяне лепшым суразмоўцам. Пісалася лёгка, кожны дзень — па старонцы-дзве. Улічваючы, колькі дзён у годзе... За тры гады зняволення я напісаў столькі, колькі, можа быць, за апошнія 25 гадоў. Гэта быў стымул не сядзець склаўшы рукі. Своеасаблівая форма грамадзянскага супраціву. Ёсць, дарэчы, тэксты, якія яшчэ трэба дапісваць на волі.

**— А чыталі што?**

— У калоніі была даволі нармальная бібліятэка. Я прачытаў Салжаніцына, Гросмана, Талстога і яшчэ шмат каго... Выпісваў "Народную Волю", іншыя незалежныя выданні. Праўда, даваць камусьці яшчэ пачытаць гэтыя газеты забаранялася, а тых, хто браў у мяне прэсу, пераводзілі ў іншыя атрады. Дарэчы, перад тым, як мяне перавялі з каранціну ў атрад, адтуль чатырох чалавек, якія былі падпісаны на "Народную Волю", раскідалі па іншых атрадах. Напэўна, палічылі, што пяць чалавек, якія чытаюць "Народную Волю", — гэта ўжо арганізацыя.

**— Алесь, у гісторыі ёсць прыклады той жа Чэхіі, Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі, калі палітзняволеныя выходзілі на свабоду і затым рабіліся прэзідэнтамі сваіх краін. У вас не было думкі паспрачацца за прэзідэнцкае крэсла?**

— Ні на волі, ні ў турме я пра гэта не думаў. Таму што не маё. Трэба, каб чалавек імкнуўся да такой мэты, каб гэта яму падабалася. Гэта абранне жыццёвага шляху, але такі шлях я для сябе ніколі не бачыў. Я праваабаронца, грамадскі дзеяч, крыху пісьменнік. Плюс яшчэ адзін фармальны момант — я ж нарадзіўся не ў Беларусі, а ў Расіі, у Карэліі. А, згодна з Канстытуцыяй, прэзідэнтам краіны можа стаць чалавек, які нарадзіўся ў Беларусі.

**— Якія ўрокі вы зрабілі для сябе з турэмнага жыццёвага этапу?**

— Барацьба працягваецца. Турма — гэта сур'ёзны кавалак майго жыцця, але не самы вялікі, які я правёў у грамадскай дзейнасці. Чым займаўся раней, тое буду рабіць і далей. А набытыя ў калоніі вопыт і лепшае разуменне адносін паміж уладамі і людзьмі, думаю, абавязкова дапамогуць працаваць яшчэ больш эфектыўна.

**Гутарыў Алесь СІВЫ.**

ЧУЛІ?

## Караць беспрацоўем

*Звольненых за невыкананне дысцыпліны кіраўнікоў прапануецца як мінімум 5 гадоў не прымаць на іншыя пасады.*

Аб гэтым паведаміў прэм'ер-міністр Беларусі **Міхаіл Мясніковіч.** Паводле яго слоў, ужо на выхадзе дэкрэт па ўзмацненні адказнасці кіраўнікоў. Ён завізіраваны кіраўніком урада ў канчатковай рэдакцыі для прадстаўлення **Аляксандру Лукашэнку.**

*"Там вельмі жорсткія меры адказнасці кадраў. Тыя, хто будзе звольнены за невыкананне вытворчай, тэхналагічнай, працоўнай дысцыпліны, на працягу як мінімум пяці гадоў не змогуць займаць нават невысокія пасады",* — сказаў прэм'ер-міністр.

ВЫПАДАК

## Пасля скаргі журналіста з аўтобуса знялі расійскі сцяг

*З кіроўцам ужо правялі тлумачальную гутарку.*

Праязджаючы праз Глыбокае, **Кастусь Шыталь** убачыў расійскі сцяг на лабавым шкле аўтобуса. Ён зайшоў у дыспетчарскую аўтавакзала і напісаў скаргу ў Кнігу заўваг і прапаноў.

Днямі ён атрымаў адказ з аўтапарка, у якім адзначаецца, што з кіроўцам праведзена тлумачальная гутарка ў сувязі са знаходжаннем староніх прадметаў у аўтобусе. Расійскі сцяг з аўтобуса зняты.

ЖАХ!

## Дзве смерці ў адзін дзень

*У Мікашэвічах патануў 8-гадовы хлопчык, яго аднагодак загінуў у Бабруйску*

Першы трагічны выпадак адбыўся ўвечары на штучным вадаёме каля адной з мікашэвіцкіх школ. Дзіця там адпачывала з бацькамі. Пакуль бацька і маці адпачывалі на беразе, хлопчык купаўся, а пасля знік. Цела загінуўшага ўжо знайшлі, праводзіцца праверка.

У Бабруйску ўвечары на дарогу раптоўна выбег 8-гадовы хлопчык і трапіў пад легкавік, які праязджаў міма. Дзіця загінула, распачата крымінальная справа. Кіроўца быў цвярозы, ён застаўся на месцы трагедыі.

НА СВЯЗИ — КИЕВ

# Арсений Яценюк: уйти, чтобы остаться

*Вчера Рада Украины не приняла отставку премьера.*

*В Киеве кое-кто преподносит Яценюка как никем не заменимого премьера. Говорят, что он якобы лучший председатель правительства за многие годы. И что в нынешней ситуации он якобы один, кто находится на своем месте. Если бы не он, то вся экономика страны рухнула бы. Так ли это?*

Для начала немного об Арсении Яценюке. Он довольно молодой премьер. И в свои 40 лет занимал достаточно много руководящих постов в стране. Его карьера пошла вверх после того, как 27-летний Яценюк получил должность министра экономики Крыма в 2001 году. Через два года он перебирается в Киев, где Сергей Тигипко, тогдашний глава Нацбанка, назначает его своим первым заместителем. После того как Тигипко возглавил предвыборный штаб Виктора Януковича, Яценюк стал и.о. главы Нацбанка Украины. После "оранжевой революции" он подает в отставку и практически на полгода исчезает с политического небосклона страны, пересидев переходное время на должности заместителя губернатора Одесской области. В сентябре 2005 года о нем вспомнили, назначив министром экономики в правительстве Юрия Еханурова. Через год после отставки правительства Яценюк очутился на второстепенных должностях в секретариате президента Украины.

Но вскоре (в 2007 году) Виктор Ющенко делает его министром иностранных дел. В этой должности он пробыл меньше года и после очередного парламентского кризиса покинул этот высокий пост. После отставки Яценюк начинает создавать политическую организацию "Фронт перемен" и заявляет, что выдвигает себя кандидатом в президенты на предстоящих выборах в 2010 году. На старте кампании, которая началась во второй половине 2009 года, он имел довольно неплохие шансы. По разным социологическим замерам, его поддержка колебалась на уровне 17—22%. Это давало ему шанс обойти Юлию Тимошенко в предвыборном марафоне и выйти во второй тур. Но бездарно проведенная кампания откатила его на четвертое место с результатом всего около 7% . Это был провал.

В 2012 году, когда Юлия Тимошенко уже томилась в тюрьме, он совместно с ней заявил о создании "объединенной оппозиции" и возглавил предвыборный список на парламентских выборах 2012 года. Эта политическая сила заняла второе место, набрав по списку около 26% голосов. А Яценюк был избран председателем фракции Всеукраинского объединения "Батькивщина" в Верховной Раде. После побега из страны Януковича наступает "звездный час" Яценюка. Парламент Украины назначает его премьер-министром.

За время своей головокружительной карьеры Арсений Яценюк, в принципе, долго нигде не задерживался. Ничем особенно ярким и продуктивным на благо страны не отметился. Однако как будто кто-то по жизни за некие незримые нити тянет его постоянно на вершину политического олимпа Украины.

Грузинский реформатор Каха Бендукидзе, автор "грузинского экономического чуда", по приглашению украинской стороны прибыл в Украину со своей командой для консультирования по вопросам реформ. Но в итоге оказалось, что их приглашение — это имитация, реформы в правительстве Яценюка никто проводить не собирается. Совсем недавно он заявил, что не время браться за это, в стране идет война, дайте лучше денег. Президент Украины Петр Порошенко после таких заявлений премьера вынужден был при своей администрации создать структуру, которая выработает предложения по реформам.

Многие говорят о том, что Яценюк фактически без боя сдал часть территории страны. После Крыма правительство начало "сливать" восточные области. Только после того, как у народа Украины возникли серьезные вопросы к власти за ее бездействие в отношении защиты государства, начали предприниматься некие действия по защите суверенитета страны.

Кабинет министров не предпринял никаких мер адекватного характера в отношении собственности Российской Федерации на территории Украины. Не наложен арест на объекты собственности. На предприятиях с российской формой собственности не введено временное госуправление. Аналогичные действия не предприняты на предприятиях "семьи" Януковича и его приближенных. До сих пор прибыль этих предприятий уплывает из страны, в том числе, как ни странно, из нее финансируются террористы на востоке Украины.

Свою отставку Арсений Яценюк, скорее всего, хотел использовать для того, чтобы нарастить свой политический рейтинг в преддверии досрочных парламентских выборов. Устроить фактически шантаж президента Порошенко, выторговав у него какие-нибудь личные преференции в будущем. Снять с себя груз необходимости принятия непопулярных решений и избежать ответственности за них. А получилось, что его демарш с отставкой начали рассматривать в народе как дезертирство и предательство. Поэтому уже на следующий день Яценюк дал задний ход своим намерениям и начал снова принимать участие в работе правительства. Вчера, 31 июля, была рассмотрена отставка премьер-министра на закрытом заседании парламента. Ожидаемо она не была принята. За нее проголосовало всего 16 народных депутатов. Так что Арсению Яценюку еще предстоит активно поработать, как он выразился, в "правительстве-камикадзе" на благо Украины до формирования нового Кабинета министров, которое произойдет после намеченных внеочередных парламентских выборов.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ, собственный корреспондент газеты "Народная Воля" в Украине.**

ПАЗІЦЫЯ

# Анатоль Лябедзька патрабуе пакарання для тых, хто «брутальна парушае правы чалавека»

*Падчас сустрэчы міністра замежных спраў Літвы **Лінаса Лінкявічуса** з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька** перадаў еўрачыноўніку спіс з прозвішчамі 13 суддзяў і сілавікоў, якія, паводле ягоных слоў, падчас выбарчай кампаніі "брутальна парушалі правы чалавека" і па гэтай прычыне павінны стаць неўязнымі ў краіны ЕС. "Хай гэты спіс патрапіць у Брусель, дзе і будуць вырашаць, што з ім далей рабіць", — зазначыў Анатоль Лябедзька.*

***Вось спіс службовых асоб, якія, паводле меркаванняў А.Лябедзькі, груба парушаюць канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзян Рэспублікі Беларусь***

### Магілёў

**Кунцэвіч Андрэй Міхайлавіч** — намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама, галоўны ідэолаг горада.

Пад яго патранажам у Магілёве фактычна забаронены мітынгі, сходы, пікеты, вулічныя шэсці, свабода правядзення якіх гарантавана артыкулам 35 Канстытуцыі. З пачатку года ў Магілёве адмоўлена ў правядзенні больш як 200 масавых мерапрыемстваў, прычым некаторыя з іх планавалася правесці ў дазволеных для гэтага месцах.

**Маркачоў Аляксандр Васільевіч** — намеснік старшыні Бабруйскага гарвыканкама, галоўны ідэолаг г.Бабруйска.

Пры яго ўдзеле фактычна забаронены мітынгі, сходы, пікеты, вулічныя шэсці ў г.Бабруйску.

Вось апошні прыклад. Бабруйскія актывісты АГП падалі дзесяць заявак на правядзенне пікетаў з нагоды чарговай гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі (27 ліпеня 1991 года). На ўсе заяўкі выканкам даў адмову.

**Галушка Ала Аляксандраўна** — першы намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама.

Да 2014 года доўгі час працавала начальнікам ідэалагічнага ўпраўлення Магілёўскага гарвыканкама. Галоўны ідэолаг і фактычна выканаўца ўсіх забарон для апазіцыі ў горадзе Магілёве ў апошнія пяць гадоў, усе дакументы па адмовах у правядзенні масавых мерапрыемстваў рыхтавала яна.

### Гродна

**Вішнеўская Ірына Аляксандраўна** — начальнік юрыдычнага аддзела УЖРЭП Кастрычніцкага раёна г.Гродна.

Неаб'ектыўна сведчыла на судзе 7 лютага 2014 г. супраць актывістаў АГП па справе аб пікеце. На падставе яе сведчанняў актывісты былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

**Пятрова Алена Аляксандраўна** — суддзя Ленінскага раёна.

Яна на падставе лжывых сведчанняў Скока і Вішнеўскай, ігнаруючы іншыя доказы і заканадаўства РБ аб выбарах, асудзіла актывістаў партыі за пікет 7 лютага 2014 года.

**Скок Юрый Уладзіміравіч** — маёр міліцыі (адміністрацыя Ленінскага раёна Гродна).

Фальсіфікацыя і лжывыя сведчанні на судзе 7 лютага 2014 г. у дачыненні да актывістаў АГП.

**Вайцяшко Аляксей Ігаравіч** — участковы інспектар міліцыі АУС Ленінскага раёна Гродна. Куратар усіх "палітычных" спраў па горадзе Гродна.

### Мінск

**Фёдарава Марына Аркадзьеўна** — суддзя Савецкага раёна Мінска.

У перыяд мясцовай выбарчай кампаніі вынесла некалькі палітычна матываваных судовых рашэнняў у дачыненні да дэмакратычных актывістаў, даверанных асоб кандыдата ў дэпутаты ад АГП.

**Кесель Цімур Барысавіч** — начальнік аддзела аховы правапарадку міліцыі грамадскай бяспекі Савецкага РУУС Мінска.

У 2014 годзе арганізоўваў і браў асабісты ўдзел у брутальным затрыманні актывістаў дэмакратычных арганізацый. Асабіста з мэтай устаранення вывозіў лідара АГП Анатоля Лябедзьку ў Курапаты (месца масавага пахавання ахвяраў сталінскіх рэпрэсій).

**Камісараў Валерый Мікалаевіч** — суддзя Мінскага гарадскога суда.

Вынес палітычна матываванае судовае рашэнне па апеляцыі лідара АГП Анатоля Лябедзькі і намесніка старшыні БСДП (Народная Грамада) Аляксандра Арастовіча, якія адбылі адміністрацыйны арышт.

**Полулех Кірыл Ігаравіч** — суддзя Савецкага раёна Мінска.

У перыяд мясцовай выбарчай кампаніі вынес некалькі палітычна матываваных судовых рашэнняў у дачыненні да дэмакратычных актывістаў, даверанных асоб кандыдатаў у дэпутаты ад АГП.

**Якубоўскі Эдуард Эдуардавіч** — суддзя Савецкага раёна Мінска.

У перыяд мясцовай выбарчай кампаніі вынес некалькі палітычна матываваных судовых рашэнняў у дачыненні да дэмакратычных актывістаў, даверанных асоб кандыдатаў у дэпутаты ад АГП.

**Невяроўскі Віталь Анатольевіч** — намеснік начальніка аддзела аховы правапарадку УУС адміністрацыі Савецкага раёна Мінска, падпалкоўнік міліцыі.

Куратар усіх "палітычных" спраў у Савецкім раёне Мінска.

Анатоль Лябедзька, прадстаўляючы спіс Лінасу Лінкявічусу, даў разгорнутую характарыстыку кожнаму "герою". Факты, якія ён прыводзіць у сваім лісце, сапраўды выклікаюць абурэнне. А вось, як іх ацэняць у Бруселі, — сказаць сёння немагчыма.

